# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

## СВЕТ

### ДВА НАПРАМКІ

У часе, калі пішам гэты матэрыял, свет жыве пад уражаннем В'етнама. Усе чакаюць перагавораў у Парыжы паміж прадстаўнікамі ДРВ і адміністрацыяй Ніксана. Ніхто не можа прадбачыць іх вынікаў.

Аднак у амерыканскай грамадскай думцы можна вылучыць як бы два напрамкі: рэакцыйны і рэалістычны.

Рэакцыйны напрамак прадстаўляюць так званыя «ястрабы». Іх лозунг «Раз, але паспяхова»: згаджаюцца яны на размовы ў Парыжы, але, паводле іх, павінны яны адбывацца з пазіцыі сілы. Заклікаючы Ніксана да працягвання вайны ў В'етнаме, некаторыя рэакцыйныя палітыкі ЗША напомнілі былога прэзідэнта Трумана, гаворачы, што «быў гэта прэзідэнт, які не баяўся прыняць пастанову».

Аднак ёсць і другі напрамак — рэалістычны. Прадстаўнікамі гэтага напрамку з'яўляюцца многія з амерыканскіх членаў Кангрэса. Характэрнымі для гэтага напрамку з'яўляюцца словы сенатара Эдварда Кенедзі, які запытаў: «Як доўга яшчэ будзем вязнямі гэтай вайны?».

### РОЛЯ НАВУКІ

Навука ў жыцці савецкага грамадства адыгрывае ўсё большую ролю.

На працягу 1966—1970 гадоў у Савецкім Саюзе сканструяваны 21.272 новыя машыны, апараты і прылады. У гадах 1951 — 1955 сканструявана ўсяго 4.345 новых машын і апаратаў. Толькі ў 1971 годзе сканструявана іх 3.873.

### СЛУЖБОВЫЯ АЎТАМАБІЛІ

Ужо тры месяцы таму назад у Венгрыі прынята рашэнне аб змяншэнні колькасці службовых аўтамабіляў. Да канца 1972 года 6,5 тыс. самаходаў не атрымала дазволу на «службовую эксплуатацыю» аўтамабіляў.

### АМЕРЫКАНСКІ ЭКСПАРТ

Амерыканскі экспарт у Кітайскую Народную Рэспубліку ў першай палове 1972 года склаў, пералічыўшы гэта на грошы, 340 тысяч долараў, а кітайскі экспарт у ЗША — 14 мільёнаў долараў. Агульна беручы, амерыканска-кітайскі гандлёвы абарот быў у гэты перыяд амаль у тры разы большы, чым на працягу ўсяго 1971 года.

### СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА ГДР

Сельская гаспадарка ГДР у 1972 годзе атрымала рэкордныя вынікі. У некаторых галінах дасягнуты такія высокія вынікі, аб якіх не ведае гісторыя краіны. У сярэднім плёны збожжавых культур з 1 гектара склалі 36,6 цэнтнера. Гэта абазначае, што сабрана на 0,8 мільёна тон збожжа больш, чым у мінулым годзе. Дажджы ў жніўні не дазволілі дасягнуць яшчэ лепшых вынікаў. Значныя поспехі дасягнуты ў вырошчванні бульбы і цукровых буракоў, а таксама кукурузы, кармавых буракоў і сена.

У германскай сельскай гаспадарцы безупынна змяншаецца колькасць працуючых. Ад 1950 года зменшылася яна з 2,2 мільёна чалавек да 839 тысяч у канцы 1972 года.

### РУМЫНСКАЯ КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ...

...налічвае зараз 2260 тыс. членаў. З гэтага ліку 70 прац. гэта рабочыя і сяляне. 75 прац. членаў партыі непасрэдна працуе ў прадукцыі. (ак)

## БССР

### ВЫСОКАЯ ЎЗНАГАРОДА

Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка за высокія дасягненні ў камуністычным будаўніцтве і ў сувязі з 50-годдзем утварэння СССР узнагароджана ордэнам Дружбы народаў. Гэты факт выклікаў у працоўных рэспублікі новы творчы ўздым. З усіх раёнаў і прадпрыемстваў БССР паступаюць паведамленні аб новых абавязацельствах, якімі жыхары Беларусі выказваюць сваю ўдзячнасць за высокую ўзнагароду.

### ВЫСТАЎКА

У павільёнах Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі БССР адкрыта выстаўка «Беларусь у брацкай сям'і саюзных рэспублік». На выстаўцы дэманструецца больш за 4 тысячы экспанатаў, якія даюць усебаковае ўяўленне аб буйным развіцці прамысловасці і сельскай гаспадаркі БССР, навукі і культуры, аб росквіце талентаў і здольнасцей беларускага народа.

### У НОВАПОЛАЦКУ...

...знаходзіцца нафтаперапрацоўчы завод. Ён узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Першы рабочы дзень новага года рабочыя завода сустрэлі выдатнай працай. Звыш заданняў выпрацавалі яны тысячы тон бензіну і больш як 1200 тон бітуму. Цяпер на заводзе вядуцца работы па далейшаму нарошчванню магутнасці.

### АЎТАМАТЫЗАЦЫЯ ВЫТВОРЧАСЦІ

На заводзе заточных станкоў імя 22 з'езду КПСС у Віцебску прынята ў эксплуатацыю першая чарга аўтаматызаванай сістэмы кіравання вытворчасцю. Яна будзе ажыццяўляць аператыўны ўлік паступлення камплектуючых вырабаў, разлік працоўных і матэрыяльных рэсурсаў і вырашаць шмат іншых задач. Падобныя сістэмы ўводзяцца на іншых прадпрыемствах, між іншым, у мінскім домабудаўніцтве.

### ПОСПЕХ НАФТАРАЗВЕДЧЫКАЎ

Шчасліва пачаўся новы год для нафтаразведчыкаў на Палессі. У працэсе бурэння са свідравіны Асташковіцкага месцанараджэння атрыманы другі прыток вадкага паліва з дэбітам каля 180 тон у суткі. Першы пачаў дзейнічаць у снежні мінулага года.

### КАЛГАС «1 МАЯ»...

...у мінулым годзе дабіўся 27 цэнтнераў збожжавых, 190 — бульбы, амаль 280 цэнтнераў цукровых буракоў. Калгас выканаў 2 дзяржаўныя планы продажу збожжа і бульбы, намнога перавыканаў план пастаўкі буракоў.

Вельмі смелыя заданні калектыў першамайцаў намеціў на трэці год пяцігодкі. Калгаснікі абавязаліся сабраць з кожнага гектара аж па 36 цэнтнераў збожжавых, 260 —бульбы і 300 цэнтнераў цукровых буракоў.

### КАМСАМОЛЬСКІЯ ПРЭМІІ

Бюро ЦК Ленінскага камсамола Беларусі прысудзіла прэміі гэтай арганізацыі ў галіне літаратуры, мастацтва, навукі, тэхнікі і вытворчасці. Між іншым, лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Беларусі з'яўляецца паэт Генадзь Бураўкін. Гэтую ўзнагароду атрымаў ён за высокі ідэйна-мастацкі ўзровень вершаў і адлюстраванне ў іх маладзёжнай тэматыкі. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ПАЖАДАННІ Э. ГЕРКУ

У сувязі з 60-годдзем з дня нараджэння I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк прыняў сардэчныя пажаданні доўгіх гадоў жыцця і поспехаў у працы для дабра Польшчы і сацыялізму ад членаў Палітбюро, Сакратарыята ЦК ПАРП, ад Прэзідыума ўрада і ад дэлегацый з усіх ваяводстваў нашай краіны.

Свае найлепшыя пажаданні Э. Герку перадалі дзяржаўныя і партыйныя прадстаўнікі з розных краін свету.

### ТАВ. Э. ГЕРЭК УЗНАГАРОДЖАНЫ ОРДЭНАМ ЛЕНІНА

Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў тав. Э. Герка ордэнам Леніна. Э. Герэк унёс вялікі ўклад у развіццё польска-савецкіх адносін, у справу ўмацавання міру і сацыялізму.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО

3 снежня адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім быў прыняты тэкст пісьма Сакратарыята ЦК і Прэзідыума ўрада да пярвічных партыйных арганізацый, канферэнцый рабочага самаўпраўлення і дырэкцыі прадпрыемстваў, да рабочых калектываў усіх прадпрыемстваў. У гэтым пісьме Сакратарыят ЦК і Прэзідыум урада выказалі сардэчную падзяку рабочым калектывам, партарганізацыям, канферэнцыям рабочага самаўпраўлення, маладзёжным арганізацыям і кіраўніцтву прадпрыемстваў за іх працу, дзякуючы якой былі перавыкананы планавыя задачы і выкананы абавязацельствы, прынятыя ў рамках акцыі «20 мільярдаў злотых». Творчая праца калектываў спрыяла паляпшэнню жыцця ўсяго грамадства. Добрыя вынікі мінулага года павінны мець уплыў на дадатковую прадукцыю ў 1973 годзе.

Палітбюро разгледзела таксама прадпасылкі павелічэння выкарыстання гаручага ў нашай гаспадарцы і абмеркавала некаторыя актуальныя задачы ў галіне актывізацыі замежнага гандлю.

### ПОМНІК М. НАВОТЦЫ

У сувязі з святкаваннем 30-ай гадавіны Польскай рабочай партыі ў Варшаве перад Механічным заводам імя Навоткі быў адкрыты помнік М. Навотцы, аднаму з заснавальнікаў і першаму правадыру ППР. Помнік адкрыў член Палітбюро, сакратар ЦК ПАРП Ф. Шляхціц. Адкрыццё помніка з'яўляецца доказам сардэчнай памяці польскага народа аб барацьбітах ППР.

### РЫНАК — 1973

Міністр унутранага гандлю Э. Шнайдэр паінфармаваў, што ў гэтым годзе гандлёвыя ўстановы прададуць тавараў на 9 прац. больш у параўнанні з мінулым годам. На рынку ўзрасце на 9,7 прац. колькасць імпартаваных вырабаў. Гандаль лепш задбае аб забеспячэнні рынка вырабамі, якія карыстаюцца найбольшым попытам. Значна палепшыцца рэклама і інфармацыя аб таварах, продаж на раты і тавараў з пераацэнкі. У 1973 годзе павялічыцца колькасць крамаў, у тым ліку і тых, якія перайшлі на самаабслугоўванне.

### ПАБУДОВА ХУТКАЙ ЧЫГУНАЧНАЙ МАГІСТРАЛІ

Ад 1971 года ідзе пабудова адной з найбольш сучасных у Еўропе чыгуначнай магістралі, якая спалучыць Шлёнск з Варшавай, а ў будучыні з Узбярэжжам. Зараз пабудова гэтай магістралі вядзецца на Келеччыне. (яц)

## ВАЯВОДСТВА

### САКРАТАР ЦК ПАРП У БЕЛАСТОКУ

4 студзеня на Беласточчыне прабываў сакратар ЦК ПАРП Е. Лукашэвіч. Ён сустрэўся з грамадска-палітычным актывам нашага ваяводства. У сустрэчы ўдзельнічалі члены сакратарыята ВК ПАРП з I сакратаром З. Куроўскім. Е. Лукашэвіч адзначыў вельмі высокую дынаміку развіцця нашай сельскай гаспадаркі. Парушаліся таксама справы развіцця беластоцкай прамысловасці.

Сакратар ЦК ПАРП наведаў «Фасты», гутарыў з рабочымі, цікавіўся вытворчасцю і сацыяльна-бытавымі ўмовамі на камбінаце, пабываў у цэхах.

### ПЕРШЫЯ СЕСІІ

Ад другога да шостага студзеня па ўсім ваяводстве адбываліся першыя сесіі гмінных рад народовых. Новы адміністрацыйны падзел стаў правамоцным. На першых сесіях уручаны былі эрэкцыйныя акты гмін, выбраны старшыні прэзідыумаў і камісій, зацверджаны парадак і план працы на гэты год. Начальнікі гмін прадставілі праграмы дзейнасці, задачы і перспектывы развіцця гмін, а затым адбыліся дыскусіі. Асаблівая ўвага звярталася на магчымасць паляпшэння працы гаспадарчых устаноў у гмінах.

### ПАДЗЯКА

5 студзеня адбылося пасяджэнне экзекутывы ВК партыі. Ацэньвалася выкананне пастаноў, прынятых экзекутывай ў 1972 годзе. Са справаздачамі выступілі ўсе кіраўнікі аддзелаў. Экзекутыва ВК прызнала, што ўсе пастановы выконваліся правільна. Мінулы год быў для нашага ваяводства добрым годам. Усе планы былі выкананы, а часта і перавыкананы. Усім тым, хто сваёй стараннай працай садзейнічаў таму, каб гэты год можна было ацаніць іменна так, экзекутыва ВК ПАРП выражае сваю падзяку.

### ЗАКЛІК

Ваяводскі камітэт Нацыянальнага фонду аховы здароўя звярнуўся з заклікам да ўсяго нашага грамадства, да ўсіх жыхароў Беласточчыны: рабочых і сялян, інтэлігенцыі, спулдзельцаў і рамеснікаў, да жанчын і моладзі, — каб усе ўключыліся ў справу разбудовы базы, неабходнай для аховы здароўя. У закліку ёсць зварот і да прадпрыемстваў і ўстаноў, каб прымалі на сябе абавязацельствы працы грамадскім чынам на карысць аб'ектаў, якія будуюцца за грошы з Нацыянальнага фонду аховы здароўя.

### У АДКАЗ НА ПІСЬМО...

...Сакратарыята ЦК ПАРП і Прэзідыума ўрада, у якім быў заклік абмеркаваць, разважыць магчымасці, па прыкладу мінулага года, даць больш вырабаў, чым прадбачвае план на 1973 год, першымі адгукнуліся рабочыя Беластоцкага прадпрыемства харчовай прамысловасці. На канферэнцыі рабочага самаўпраўлення калектыў абавязаўся даць прадукцыі на 5 мільёнаў зл. больш, чым гэта прадбачвае план на 1973 год. (яч)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 14. I.**

7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy. 8.20 „Przypominamy, radzimy". 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 Teleranek. 10.20 „W starym kinie" — „Film moją pasją". 11.20 Reprezentacyjna Orkiestra Pomorskiego Okręgu Wojskowego w Bydgoszczy. 12.00 Dziennik. 12.10 Sprawozdawczy magazyn sportowy. 14.00 „Przemiany". 14.30 Dla dzieci: K. Boglar — „Gucio i Cezar". 15.20 „W obiektywie" 15.50 „Joseh Laufer i jego piosenki". 16.20 „Piórkiem i węglem". 16.45 „Wielka gra". 17.40 „Samotny jak nikt" („Kobiety ich życia"). 18.35 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Gospodynie" — film TVP (Chłopi") odc. VIII. 20.55 PKF. 21.05 „Znasz li ten kraj" — program estradowy. 22.05 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 15. I.**

15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 17.50 TV Kurier Kielecki. 18.10 „Oferty". 18.25 Program warszawsko-mazowiecki. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: „Sumienie" (na motywie „Wiecznego małżonka" F. Dostojewskiego"). 21.25 Publicystyka międzynarodowa. 22.05 Dziennik. 22.25 Gra Stefan Czermak — skrzypce (laureat międzynarodowego Konkursu Skrzypcowego im. H. Wieniawskiego w Poznaniu — VI nagroda).

**Wtorek 16. I.**

9.05 „Gospodynie" film TVP („Chłopi") odc. VIII. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „W hucie żelaza". 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Język polski — B. Prus „Anielka". 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — E. Bryll — „Rzecz listopadowa". 16.10 Program dnia. 16.15 Dziennik. 16.25 Telewizja Młodych. 17.55 „Perspektywy techniki". 18.25 Program warszawsko-mazowiecki. 18.45 „Dzień zwykłej pracy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Życie małżeńskie" — film franc. cz. II „Ona". 21.55. „Ex libris". 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.50 Radziecki program rozrywkowy.

**Środa 17. I.**

8.05. „Życie małżeńskie" — film franc. cz. II „Ona". 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Ciśnienie w cieczach". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Zasada zachowania energii". 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „W powstańczych szeregach". 12.45 i 13.20 Mechanizacja Rolnictwa: cz. I. i II. 14.00 „Wybieramy zawód". 15.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Latający Holender — Szkoła Jungów 2000". 17.10 Dla dzieci: M. Kann — „Malwinka". 17.40 „Informacje, Towary, Propozycje". 17.55 Film. 18.25 Program warszawsko-mazowiecki. 18.45 „Poligon". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Studio 63: M. Żuławski — „Mantylka" („Opowieści mojej żony"). 20.25 „Jaqueline Bawarska" — film franc. („Słynne ucieczki"). 21.20 „Świat i Polska". 21.55 „Antyk" — odc. IV („Balet"). 22.30 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Czwartek 18. I.**

9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — „Poezja XVII wieku". 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Przeciwko tureckim buńczukom" 10.25 „Jaqueline Bawarska" — film franc. („Słynne ucieczki"). 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Karol Szymanowski". 14.00 Matematyka w szkole:: „Pomiary, długości, odcinki". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 PKF. 17.55 „ZSRR-50" „Azerbejdżańska SRR". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr Kobra: „Tajemnica jeziora" wg. R. Chandlera. 21.25. „Refleksje". 21.55 „Kobiety lubią sprawiać niespodzianki" („Wieczorowy Uniwersytet dla Starszych Panów") wg. G. Boccaccio. 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Piątek 19. I.**

8.35 „Biały pokój" — film fab. bułg. 9.55 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Wychowanie techniczne — „Łączność przewodowa". 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie. — „Podstawowa Organizacja Partyjna PZPR". 15.20 i 23.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Rysunek techniczny. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.45 „Gramy o telewizor". 18.10 „Turystyka i wypoczynek". 18.25 Program warszawsko-mazowiecki. 18.45 Magazyn medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Minuta grozy" — film NRF. 20.30 „Panorama Tygodnia". 21.10 Teatr TV na świecie: W. Szekspir — „Wieczór Trzech Króli". 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Sobota 20. I.**

7.50 „Kto sieje wiatr" — film fab. USA. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Świat owadów". 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Układ krwionośny". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Chile". 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 Telereklama. 16.30 Dziennik. 16.40 Program dla młodych widzów. 18.00 „Bieg po zdrowie". 18.30 „Godzina Orfeusza". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Wielka Rewia na Karowej". 21.25 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.05 „Kto sieje wiatr" — film fab. USA.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 12 stycznia**

10.35 Filmy dokument. 14.15 Spektakl dla uczniów. 16.30 Mistrzostwa ZSRR w jeździe figurowej na lodzie. 20.00 Teatr miniatur. 21.30 Nasi goście: W. Malinin.

**Sobota, 13 stycznia**

10.40 Przegląd międzynarodowy. 11.40 Spotkanie literackie. 14.00 Koncert zespołu „Żok". 15.00 Film animowany. 16.10 Film dokument. 17.30 Film fab. 19.30 Mistrzostwa ZSRR w jeździe figurowej na lodzie.

**Niedziela, 14 stycznia**

8.00 Reportaż z wystawy. 8.30 Kiosk muzyczny. 10.00 Filmy animowane. 10.30 Dla żołnierzy. 11.00 Film fab. 13.00 Nowe wiersze M. Tanka. Czyta autor. 13.15 Konkurs młodych piosenkarzy. 15.00 Klub filmowy. 17.00 Mistrzostwa ZSRR w jeździe figurowej na lodzie. 20.00 Koncert. 20.55 Tańczcie z nami.

 

# Мясцовыя дарогі ў Бельскім і Гайнаўскім паветах

Гаспадаркай на мясцовых дарогах паасобных паветаў кіруюць павятовыя праўленні мясцовых дарог. У Бельскім і Гайнаўскім паветах, так як і ў іншых паветах Беластоцкага ваяводства, большая частка дарог — гэта мясцовыя дарогі.

У Беластоцкім ваяводстве больш 60% таварнай масы перавозяць аўтамабільным транспартам. Таму менавіта мясцовыя дарогі з'яўляюцца настолькі важнымі; тым больш, што развіваецца матарызацыя, павялічваюцца перавозкі і развіваецца сельская гаспадарка.

Да гэтага часу ў Бельскім і Гайнаўскім паветах пабудавана шмат дарог, а між іншым: Бельск Падляшскі — Орля —Рутка, Пульшы—Страбля, Бранск—Гадышэва—Тапчэва і Орля—Зубава ў Бельскім павеце; Дубічы Царкоўныя—Збуч—Клейнікі—Градочна, Гайнаўка—Дубічы Царкоўныя—Орля, Кляшчэлі—Палічна, Дубічы Асочныя—Ласінка—Тыневічы, Нараўка—Масева, Альхоўка —Семяноўка—Лука ў Гайнаўскім павеце.

Гэтыя сур'ёзныя дасягненні Гайнаўскага павету атрыманы дзякуючы самаахвярнасці дарожнай службы і ўсяго грамадства, а асабліва жыхароў вёскі. Неабходна таксама падкрэсліць тут фінансавую дапамогу дзяржавы.

Разам з разбудоўваннем сеткі мясцовых дарог прыводзіцца ў дзеянне ўсё больш ліній аўтобусаў ПКС.

Планы павятовых праўленняў мясцовых дарог ахопліваюць задачы да 1990 года.

У 1973 годзе ў Бельскім павеце будзе пабудавана дзесяць мясцовых дарог, на трох участках будуць мадэрнізаваны цвёрдыя дарогі, будуць адноўлены 2 цвёрдыя дарогі, а таксама палепшаны грунтовыя дарогі. У Гайнаўскім павеце ў той жа час будзе пабудавана 9 мясцовых дарог, будуць мадэрнізаваны дзве цвёрдыя дарогі, адноўлена адна дарога і таксама будуць паляпшацца грунтовыя дарогі. Павятовае праўленне мясцовых дарог у Бельску і Гайнаўцы таксама будуе, мадэрнізуе і рамантуе масты. Мэта гэтага — пабудаваць добрыя спалучэнні паміж вёскамі, гмінамі і суседнімі паветамі.

Да гэтага часу гаспадарчая дзейнасць павятовых праўленняў мясцовых дарог у Беластоцкім ваяводстве фінансавалася з наступных крыніц: з фонду на мясцовыя дарогі і масты, з грошай, прызначаных на інвестыцыі і капітальныя рамонты, са сродкаў грамадскага фонду, з фонду ПЗУ, з бюджэтных надвышак рад нарадовых, з удзелу іншых адзінак у коштах будовы мясцовых дарог і мастоў, з укладу насельніцтва ў рамах грамадскіх дарожных чынаў.

Частковая змена фінансавання ў галіне будовы дарог пасля ўтварэння гмін зробіць пазітыўны ўплыў на развіццё мясцовых дарог. У бліжэйшыя гады дарогі будуць будавацца ў рамках інвестыцыйных дарожных чынаў пры фінансавай дапамозе дзяржавы і гміннага фонду, многае таксама залежаць будзе ад актыўнасці мясцовага насельніцтва.

Выкананне такіх сур'ёзных задач, намечаных у плане, будзе магчыма толькі пры максімальным і ўсебаковым выкарыстанні мясцовых сродкаў і мабілізацыі насельніцтва на грамадскія дарожныя чыны, пры выкарыстанні ўсялякай грамадскай ініцыятывы, самаахвярнасці дарожнай службы і неабходнай фінансавай дапамогі дзяржавы.

*Алойзы Даковіч*

# Клуб „РУХ" у Залуках



*Ірэна Паплаўская.*

Яшчэ ў 1971 годзе толькі некаторыя верылі ў тое, што ў вёсцы Залукі Беластоцкага павету будзе адкрыты клуб «Руху». Аб клубе ў сваёй вёсцы марыла перш за ўсё моладзь. Павятовыя ўлады прадпрыемства «Рух» адкрылі ў пачатку г.г. клуб у будынку мясцовай рамізы. Праз месяц у клубе паявіўся тэлевізар. Новыя столікі і крэслы, а таксама іншае абсталяванне было дастаўлена адразу. Працу ў клубе пачала Ірэна Паплаўская, якая ў першыя ж дні існавання клуба арганізавала чытанне цікавых кніжак, а таксама дэманстрацыю каляровых казак для дзяцей. Для жанчын былі арганізаваны лекцыі на тэмы асабістай гігіены і здароўя. Моладзь, арганізаваная ў гуртках БГКТ і ЗМВ, наладзіла вечарыну, прысвечаную вялікім беларускім пісьменнікам Я. Купалу і Я. Коласу, дэманстрацыю савецкіх кінафільмаў, сустрэчы з ЗМС-аўскай моладдзю з Эканамічнага тэхнікума ў Беластоку, акадэміі. У клуб пачала прыходзіць моладзь з суседніх вёсак. Найбольш збіралася на тэлевізійны «дзённік» і на цікавыя кінафільмы, на танцавальныя вечарыны, або пачытаць свежую прэсу. Кіраўнічка клуба Ірэна Паплаўская пачала шырэй прапагандаваць падпіску на газеты, а ў тым ліку і на «Ніву».

На многа культурней пачала весці сябе моладзь. Вельмі добра, што цяпер мае яна дзе сустрэцца. Напэўна народзіцца ахвота паспрабаваць сваіх сіл і ў мастацкай самадзейнасці. Кажуць, што спробы ўжо былі. І гэта нас цешыць.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкага*




# SLAVIA

У раздзеле «Крытыка і даклады» трэцяга нумара часопіса «SLAVIA» з 1972 года змешчан агляд вядомага чэшскага беларусазнаўца Міколаша Затаўканюка — «Беларуская лексікалогія ў пяцігоддзі 1965—1970».

Ва ўступнай частцы свайго агляду аўтар даў характарыстыку беларускай лексікалогіі ад канца дваццатых гадоў («Віцебскі краёвы слоўнік», «Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны»). У гадах 1919—1935 паявілася каля 50 слоўнікаў, якія датычылі таксама беларускай тэрміналогіі ў розных галінах навукі і тэхнікі.

Шмат увагі аўтар агляду прысвячае слоўнікам Бялькевіча, Сцяцко, Жыдовіч, якія выйшлі з друку ў 1970 годзе, і Юрчанкі (Мінск 1966). Падкрэсліваецца багацце слоўнікавых выданняў Янкоўскага, Судніка, Кісялеўскага.

Высока ацэнены даследаванні М. Бірылы («Беларуская антрапанімія»). Чэшскі вучоны лічыць, што дзякуючы фундаментальным даследаванням Бірылы беларускае мовазнаўства дасягнула перадавой пазіцыі ў славянскай антрапаніміі. Характарыстыцы даследаванняў выдатнага беларускага вучонага прысвяціў ён асобны падраздзел свайго агляду.

З вялікім зацікаўленнем піша Затаўканюк пра дзейнасць і творчыя здабыткі А. Супруна, сурэдактара «Актуальных проблем лексикологии», зборніка з багатай тэматыкай.

Шкада, што здабыткі беларускіх вучоных мала вядомы за мяжою, адзначае чэшскі вучоны ў заканчэнні агляду.

*Сакрат Яновіч*

## Прыкладны пісьманосец

Ураджэнец Мацейкавай Гары (Беластоцкі павет) Кастусь Нос ужо дванаццаць гадоў працуе пісьманосцам на пошце ў Юшкавым Грудзе. Абслугоўвае ён даволі вялікі раён, між іншым, такія вёскі, як Бяндзюга, Сушча, Калеснае, Круглы Лясок, Полька, Супруны. Штотыдзень даручае ён таксама падпісчыкам наш беларускі тыднёвік «Ніва». Найбольш — у вёску Бяндзюга. Сяляне з яго раёна выпісваюць таксама шмат часопісаў на сельскагаспадарчыя тэмы: «Грамада — рольнік польскі», «Малады селянін», «Плён», «Аграхімія» і іншыя.

Кастусь Нос абавязкі свае выконвае паспяхова. Штодзень на матаролеры праязджае не менш 28 кіламетраў, каб тэрмінова даручыць усе пасылкі. Пра яго саліднасць у выконванні прафесіянальных абавязкаў прыемна нам было пачуць многіх жыхароў вёсак, якія абслугоўвае паштовая ўстанова ў Юшкавым Грудзе.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкага*




## ПАСЛУГОВА — ВЫТВОРЧАЯ СПУЛДЗЕЛЬНЯ

Побач з прамысловасцю і будаўніцтвам, сельскай і лясной гаспадаркай галіна паслуг дае працу вялікай колькасці людзей. Развіццё паслугаў мае вялікі ўплыў на ўмовы быту, а таксама на прадукцыйныя ўмовы ў нашай краіне. Асаблівае значэнне маюць рамонтна-будаўнічыя паслугі. Новая арганізацыя гмін павінна і будзе спрыяць развіццю паслугаў у малых мястэчках.

У Нарве на Гайнаўшчыне разбудоўваецца цяпер паслугова-вытворчая спулдзельня, дзейнасць якой звязана з вёскай, з сельскагаспадарчымі гурткамі. Прадукуе яна будаўнічыя матэрыялы: пустакі, стаўбы да агароджы, ходнікі, трэлінку, інспектавыя вокны. Спулдзельня займаецца таксама рамонтамі дамоў. Ёсць тут свая сталярня, таму спулдзельня можа выконваць нетыповыя паслугі.

Вельмі істотным у дзейнасці спулдзельні з'яўляецца яшчэ будова гаражоў для сельскагаспадарчых гурткоў і загаспадаранне баз машынна-трактарных станцый (МБМ).

(мх)




# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

## АДАМ ГУРЫНОВІЧ — ЧАСТКА II

Пераклады Гурыновіча з рускай і польскай моваў на беларускую мову нешматлікія. Пераклаў ён усяго некалькі вершаў: А. Пушкіна — «Рэха», Някрасава — «Мароз — чырвоны нос» (фрагмент), А. Талстога — «Вясна», А. Міцкевіча — «Валле», Я. Каспровіча — «Вясна» і твор Э. Ажэшка — «З часоў голаду». Можна было б мець прэтэнзіі і да мастацкага боку перакладаў Гурыновіча. Не валодаў ён беларускай мовай у той ступені, што Багушэвіч ці Лучына, і гэты факт не застаўся без следу на стылістыцы яго перакладаў.

Найбольш цікавай з'яўляецца арыгінальная творчасць Гурыновіча. Творчасці гэтай не было суджана ўбачыць свет пры жыцці аўтара. Гурыновіч — тыповы сын беларускага лёсу — не мог цешыцца вынікам сваёй творчай працы. Пры жыцці паэта вершы яго не з'яўляліся ў друку. Пісаў, значыць, «не для справы і багацця», пісаў, бо так загадвала яму сэрца.

Калі пачаў пісаць Гурыновіч? Мяркуюць, што яшчэ ў перыяд прабывання ў сярэдняй школе. Несумненна, пісаў таксама ў студэнцкія гады.

Мы ўжо сказалі, што беларускі фальклор быў адной з прычын зараджэння арыгінальнай творчасці Гурыновіча. Шукаючы іншых прычын, якія ўплывалі на развіццё творчасці Гурыновіча, трэба звярнуць увагу на творчасць беларускіх пісьменнікаў XIX ст., а перш за ўсё на паэзію Багушэвіча. Значэнне ўплываў Багушэвіча (Мацея Бурачка) падкрэсліў сам Гурыновіч у адным з сваіх вершаў

*«Дзякуй Табе, браце, Бурачок Мацею,*
*За тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею,*
*Што між братоў нашых знаходзяцца людзі*
*З кахаючым сэрцам і балячай грудзяй.*
*Дзякуй табе, браце, і за тыя словы,*
*Што ўспомнілі звукі нашай роднай мовы».*

Словы верша маюць глыбокі сэнс. Дасканала характарызуюць той цяжкі шлях, якім ішла большасць беларускіх пісьменнікаў у літаратуру. Пісьменнікі гэтыя мусілі пераадолець цяжкасці, з якімі не сустракаліся ні пісьменнікі рускія, ні пісьменнікі польскія, ні аўтары іншых народаў. Літаратурай у XIX ст. займалася, як правіла, шляхта. Шляхта ў Беларусі ў XIX стагоддзі была амаль поўнасцю каталіцкай і спольшчанай. Не было ў той час апрацаваных граматычна і навукова норм беларускай мовы. Колькі ж трэба было пачуцця, добрай волі, імкнення, каб пачаць пісаць на мове беларускага люду. Як жа шляхціц Гурыновіч мусіў нізка ўпасці ў вачах прадстаўнікоў шляхты, для якіх культура атоесамлівалася толькі і выключна з мовай суседзяў. Гурыновіч пайшоў іншым шляхам, шляхам, які падказала яму сэрца, родная зямля, зямля, беларускі народ.

Досыць цяжка акрэсліць размеры творчасці Гурыновіча. Беларускі даследчык С. Майхровіч спасылаецца на сцверджанне царскага чыноўніка, які вёў следства ў справе Гурыновіча. З гэтага сцверджання вынікае, што паліцыя затрымала восем сшыткаў з творчасцю Гурыновіча. На жаль, сшыткі аб якіх гаворыць чыноўнік, не знойдзены. Але зусім магчыма, што колькасць вершаў, напісаных Гурыновічам, не была вялікай. Ці ж мог напісаць многа юнак, які пражыў усяго 25 гадоў, юнак, які быў студэнтам, а апрача таго дзейнічаў у вядомым нам гуртку моладзі? Напэўна не.

Да нас дайшло больш дваццаці вершаў Гурыновіча. Якраз яны ствараюць карціну ўнутранага свету паэта. У паэтычным светапоглядзе Гурыновіча сышліся ў адну цэласць рамантычныя, народніцкія і крытычна-рэалістычныя элементы. Паэзія Гурыновіча — гэта паэзія грамадскага накалу. Была яна вынікам болю паэта, выкліканага нядоляй беларускага народа. Ідэолагам, заступнікам, абаронцам гэтага люду лічыў сябе Гурыновіч. Гэта якраз і акрэсліла змест яго паэзіі. У творчасці Гурыновіча дамінуюць два моманты: грамадскі і прыродаапісальны. Зрэшты, прыродаапісальны элемент найчасцей падпарадкаваны справам грамадскім.

Еднасць чалавека з прыродай найлепш падкрэслена ў вершы «Бор».

*«Ох ты, бор мой, бор,*
*Бор сасновенькі!*
*Ты з каторых пор*
*Шуміш, родненькі?*
*Мы з табой раслі,*
*Уздымаліся.*
*На адной зямлі*
*Гадаваліся...*
*А з табой у нас*
*Долі роўныя;*
*Мы з табой якраз*
*Браты родныя.»*

Прыкладам грамадскай энергіі можа быць верш «Што за звук ды так моцна раздаўся», у якім Гурыновіч далучае свой стогн да стогну ўсенароднага.

*«То ўвесь наш народ гэтак стогніць*
*Над нешчаснаю доляй сваёй».*

У многіх вершах Гурыновіча паяўляюцца заклікі да згуртавання, да калектыўнага дзеяння, да працы на карысць нацыянальнага і сацыяльнага адраджэння.

Паэтычная жар-птушка Гурыновіча не развярнула поўнасцю сваіх крыл, не ўзнялася над гняздом, не даляцела пры жыцці аўтара да тых людзей, у імя якіх была створана. Паэт не дачакаў публікацыі сваіх твораў. Ці ж у гэтым не заключаецца драма і паэта, і нацыі, да якой ён належаў?



 

# ВЯЛІКІ КОНКУРС



## „ШТО ВЕДАЕШ АБ САВЕЦКІМ САЮЗЕ"?

### ЛІТОЎСКАЯ САВЕЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА

Літоўская ССР утворана 21 ліпеня 1940 г., у Саюз ССР увайшла 3 жніўня 1940 г. Тэрыторыя рэспублікі — 65,2 тыс. кв. км, насельніцтва — 3 мільёны 202 тысячы чалавек. У сталіцы Літоўскай ССР — горадзе Вільнюсе жыве звыш 400 тыс. чалавек.

Літва займае нізінную раўніну з марэнным рэльефам, на якой знаходзіцца Жэмайцкае ўзвышша, што дасягае 228 м вышыні над узроўнем мора. Самая вялікая рака Літвы — Нямунас (Нёман). У рэспубліцы знаходзіцца каля 4 000 азёраў, яны займаюць амаль 1,5 прац. тэрыторыі Літвы. На ўзбярэжжы Балтыйскага мора знаходзіцца вялікі порт Клайпеда і славуты курорт Паланга. Мінеральнымі водамі і прыгажосцю навакольнай прыроды славяцца курорты: Друскінінкай, Біршгонас, Лікенай, Кулаўтува і іншыя.

Клімат Літоўскай ССР, падобна як у нашай краіне, фармуецца пад уплывам Атлантычнага акіяна і Балтыйскага мора.

З карысных выкапняў у Літве знаходзяцца: торф, гіпс, крэйда, мергель, вапнякі, даламіты, розныя гліны і пяскі, фасфарыты і мінеральныя воды.

За гады Савецкай улады Літва стала прамыслова-аграрнай рэспублікай, у перыяд ад 1940 па 1971 гады прамысловая вытворчасць у ёй павялічылася ў 34 разы. Прамысловыя вырабы з Літоўскай ССР экспартуюцца ў 82 краіны свету. Асабліва хуткімі тэмпамі развіваюцца машынабудаўніцтва і металаапрацоўка, галоўным чынам прыладабудаванне, станкабудаванне, выраб электрычных машын, турбін, суднабудаўніцтва, а таксама хімічная прамысловасць і перапрацоўка нафты. Вялікія здабыткі ёсць і ў літоўскай энергетыцы. У сельскай гаспадарцы пераважае малочна-мясная жывёлагадоўля.

У 1971 годзе ў Літоўскай ССР было выпрацавана каля 7,5 мільярда кілават-гадзін электраэнергіі, здабыта 3,2 мільёна тон торфу, пабудавана 22,4 тысячы металарэжучых станкоў, 335 тысяч электрычных матораў сярэдніх і вялікай магутнасці і 2 мільёны 720 тысяч электраматораў малой магутнасці, выпрадукавана 99,7 мільёна кв. м розных тканін і 10,9 мільёна пар скуранога абутку. Дзякуючы вялікім капіталаўкладанням дзяржавы ў меліярацыю зямель і забеспячэнне сельскай гаспадаркі сучаснай тэхнікай у 1971 г. у Літве было 1 мільён 856,3 тысячы штук быдла і 2 мільёны 327 тысяч штук свіней.

Хутка расце дабрабыт і культурны ўзровень жыцця ў Літоўскай ССР. У ёй працуе 3432 агульнаадукацыйныя школы розных відаў і 79 сярэдніх спецыяльных школ, у 12 вышэйшых навучальных установах вучыцца каля 60 тысяч студэнтаў. Навуковыя даследаванні канцэнтруюцца ў Акадэміі навук Літоўскай ССР і 106 навуковых установах. У Літве працуе кінастудыя, тэлестудыя, радыё, 11 прафесіянальных тэатраў, выходзіць 211 газет, часопісаў і іншых перыядычных выданняў.

(мг)



*На сцэне вільнюскага тэатра — літоўскі балет.*

## Куток практычных ведаў




### У КАРНАВАЛЕ — АБ ВАЧАХ КАБЕТЫ

Ужо даўно маляванне вачэй стала неадзоўным элементам дамскага макіяжу. Нават і вясковыя дзяўчаты, для матак якіх гэта было абсалютна нязнаным і недапушчальным, малююць вочы, ідучы на забаву ці ў госці, альбо на вечарынку ў клубе. Вядома, не варта маляваць вачэй пры працы, паколькі перашкаджае гэта, а асабліва туш, які можа размазацца і трапіць у вока, выклікаючы боль. Але ў карнавале прыгожыя вочы дзяўчатам асабліва патрэбныя. Таму сёння мы прысвяцім некалькі радкоў іх вачам, а, уласна кажучы, таму, як іх маляваць, каб было і добра і прыгожа.

У апошні час спосаб малявання вачэй вельмі змяніўся. Раней малявалі кабеты перш за ўсё павекі — даволі тоўстай, цёмнай ці каляровай крэскай уздоўж павекі. Цяпер найважнейшым элементам, які ўвыпукляецца ў маляванні вока, з'яўляюцца расніцы. Іх падкручваюць спецыяльнай машынкай, моцна тушуюць, яны «цяжкія» — такія, як на здымках фільмовых артыстак з трыццатых гадоў. Крэскі на павеках цяпер рэдукаваны да мінімума — іх можна рабіць толькі, каб адзначыць контуры вока, асабліва тады, калі вока вельмі маленькае. У той жа час каляровыя цені вакол вока надалей актуальныя і, асабліва на вечар, робяць гэтыя цені вельмі моцныя, так, каб яны былі выразным фонам для расніц.

Такім чынам, калі хочам мець модны макіяж у карнавале, трэба хутчэй узяцца за догляд расніц, паколькі рэдка сустракаюцца натуральна густыя і доўгія. На вёсцы цяпер якраз такая пара, калі ёсць шмат вольнага часу, дык асабліва маладым дзяўчатам раім выкарыстаць яго для папраўлення сваёй прыгажосці.

Напрыклад, даўно вядома, што рыцынавы алей (касторка) дасканала ўплывае на расніцы. Калі правільна яго ўжываць і мець цярплівасць, то расніцы могуць стаць густыя і бліскучыя. Крыху алею наліваем на маленькую, найлепш дзіцячую шчотачку да зубоў і шчаткуем расніцы знізу ўверх 20 разоў. Гэткую «аперацыю» трэба паўтараць штодзень раніцай і перад сном. На працягу дня добра было б некалькі разоў далікатна пацятнуць пальцамі кончыкі расніц, гэта ўзмацняе валасяныя цыбулькі.

Нельга расніц абразаць — няпраўда, што дзякуючы гэтаму расніцы будуць хутчэй расці. А вельмі важна затое, каб ніколі не пакідаць тушу нанач. Далікатныя валаскі абламліваюцца і крышацца пад уплывам непрарыўнага ўздзеяння хімічных субстанцый. Таму, юць амаль 1,5 прад тэрыторыі Літвы. маляваць вочы самім, ды толькі на дзень.

*Сяброўка*



У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Мастацтва Беларускай ССР**, 1972, цана 18 зл. 50 гр. Выданне пад рэдакцыяй Л. Н. Дробава прадстаўляе самыя выдатныя творы беларускага савецкага мастацтва — жывапісу і скульптуры. Дасканалая рэч для азнаямлення з напрамкамі развіцця і дасягненнямі беларускага савецкага выяўленчага мастацтва! У кнізе змешчана 70 каляровых рэпрадукцый карцін і здымкаў (чорна-белых) скульптуры, усе яны вызначаюцца высокай тэхнічнай якасцю.

Рэкамендуем усім любіцелям беларускага мастацтва, асабліва ж школам, як дасканалы дапаможнік для настаўнікаў беларускай мовы.

**Танк Максім**, Лісткі календара, 1970, стар. 312, цана 7 зл. 80 гр.

Максіма Танка мы ведаем як выдатнага паэта ў сучаснай беларускай літаратуры. У гэтай кнізе нам адкрываецца пяро Танка-празаіка, прычым у вельмі складаным жанры мемуарнай творчасці, дзе мастацкі вобраз і гістарычны факт мусяць утвараць адзінае цэлае. З «Лісткоў календара» паўстае перад намі складаны і багаты падзеямі перыяд 1935—1939 гадоў у жыцці пісьменніка, так званы віленскі перыяд яго творчасці.

Дасканалая літаратура для ўсіх зацікаўленых творчасцю Максіма Танка!

**Александровіч Андрэй**, Збор твораў у двух тамах, 1963; т. I, Вершы, стар. 424, цана 8 зл. 50 гр., т. II, Паэмы і публіцыстыка, стар. 360, цана 6 зл. 90 гр.

У гэтае, вышаўшае ўжо пасля смерці аўтара выданне твораў Андрэя Александровіча ўвайшлі лепшыя здабыткі пісьменніка, напісаныя на працягу нядоўгага, але надта ж плённага яго творчага жыцця. А. Александровіч — гэта ў асноўным прадстаўнік беларускай паэзіі канца 20-ых і першай палавіны 30-ых гадоў. Упісаў ён у гісторыю беларускай паэзіі багатую старонку.

Рэкамендуем усім любіцелям беларускай паэзіі.

**Русак Адам**, Выбранае, 1972, стар. 160, цана 5 зл. 20 гр.

Адам Русак у беларускай сучаснай паэзіі займае асаблівае месца, ён увасабляе сабой музыканта (скончыў кансерваторыю, доўгія гады працаваў салістам аркестра) і паэта (літаратурную дзейнасць пачаў у 1927 годзе). Абодва гэтыя вельмі блізкія да сябе віды мастацтва склалі ў творчасці А. Русака адзінае цэлае, і мы сёння захапляемся ды і самі спяваем папулярныя «Бывайце здаровы», «Бульбу», «Лясную песню», «Толькі з табою» і дзесяткі іншых дасканалых вершаў-песень, якія выйшлі з-пад пяра паэта-музыканта.

Гэтую маленькую кніжачку з серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі» рэкамендуем усім любіцелям беларускага мастацкага слова.

Кнігарня імпартных выданняў у Беластоку высылае кнігі за паштовым залічэннем (з далучэннем рахунку, калі гэтага патрабуе пакупнік). Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki", Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

Пачатак на стар. 1






зверскі яго білі, а пасля кінулі ў склеп. Разам з іншымі, якія ўцяклі з палону, яго закавалі ў кайданы, жалезнымі ланцугамі прывязалі да фурманкі, павалаклі ў мястэчка Саколку. Там зноў білі ў нямецкай камендатуры... Праз некалькі дзён чыгункай накіравалі яго ў Беласток, у той самы лагер, адкуль Іван Кулачко ўжо раз уцёк. Тут яго пазнаў адзін з ахраннікаў. І зноў па-зверску білі. Прыгаварылі накіраваць у карны блок!

Іван ведаў: з гэтага блока дарога адна — на той свет. Але не аб смерці думаў камсамолец І. Кулачко. Ён вынашваў план новай уцечкі. План неверагодны, амаль нездзяйсняльны. І гэты план з дапамогай таварышаў па лагеру і аднаго польскага чыгуначніка ўдалося ўсё ж ажыццявіць.

І зноў свабода! І зноў сяло Новы Востраў, сям'я Казлоўскіх. Адпачыўшы, змяніўшы паласатую лагерную куртку і штаны на грамадзянскую вопратку, накіраваўся Іван на ўсход.

18 сутак прабіраўся І. Кулачко лясамі і балотамі да лініі фронту. Але яна была далёка. Недзе пад Мінскам сустрэў Іван узброеных людзей з чырвонымі істужкамі на шапках і 12 снежня 1942 года ён стаў байцом партызанскага атрада імя Суворава.

Жорстка помсціў І. Кулачко нямецкім акупантам за здзекі над ім і яго таварышамі, якія давялося перанесці ім у фашысцкіх лагерах. Не адзін гітлераўскі салдат назаўсёды застаўся на беларускай зямлі ад трапных выстралаў партызана-камсамольца Івана Кулачко.

У кастрычніку 1943 года, калі камандаванне партызанскім рухам Беларусі ў гонар юбілею Ленінскага камсамола стварыла новы партызанскі атрад імя 25-годдзя ВЛКСМ, І. Кулачко адным з першых быў накіраваны ў гэты атрад.

У атрадзе імя 25-годдзя ВЛКСМ камсамолец Іван Кулачко прайшоў шлях ад радавога байца да партызанскага афіцэра. За адвагу, якую праявіў ён у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, І. Кулачко быў узнагароджан ордэнам Чырвонай зоркі і медалем «Партызану Айчыннай вайны 1941—45 г.г.» першай ступені.

Летам 1944 года партызанскі атрад імя 25-годдзя ВЛКСМ спалучыўся з Савецкай Арміяй. Большасць партызанаў улілося ў яе рады. Івану Кулачко прапанавалі застацца на савецкай рабоце ў Беларусі. Але ці мог ён заставацца ў тылу?

Ужо ў форме савецкага воіна пайшоў ён на захад. Граміў фашыстаў на іх зямлі, вылучыўся ў баях на рацэ Одры, прыняў удзел ва ўзяцці горада і вялікага марскога порта Шчэцін.

Пасля вайны Іван Кулачко вярнуўся ў роднае сяло Байдаўку, паступіў працаваць на Старабельскі камбінат хлебапрадуктаў, дзе працуе і па сённяшні дзень. Працуе з агеньком, чэсна, добрасумленна. Кіраўніцтва камбіната няраз адзначала Івана Яфімавіча Кулачко прэміямі, граматамі. На грудзях былога партызана-воіна побач з баявымі ўзнагародамі — значок ударніка камуністычнай працы.

Шмат вады ўцякло ад таго памятнага для І. Я. Кулачко дня, калі восенню 1941 года сустрэў ён у лесе каля польскай вёскі Новы Востраў падростка Шуру Казлоўскага, які прывёў яго, галоднага, у свой дом. Але ўсе гэтыя гады памятаў Іван Яфімавіч сям'ю польскіх беларусаў, падаўшую брацкую руку дапамогі ў цяжкія для яго дні.

І. Я. Кулачко ўдалося наладзіць перапіску з сям'ёй Казлоўскіх, якая па-ранейшаму жыве ў сяле Новы Востраў Беластоцкага ваяводства. Шура — Аляксандр Казлоўскі працуе ў мястэчку Саколцы. У яго два сыны. Аднаго з іх ён назваў Іванам у гонар свайго ўкраінскага сябра.

Ужо некалькі гадзін мы сядзім за сталом у маёй кватэры. Даўно астыў чай у шклянках. Ляжаць некранутыя пачастункі. А Іван і Аляксандр усё ніяк не могуць наглядзецца адзін на другога.

— А памятаеш?..

І зноў успаміны, якія нахлынулі з тых далёкіх, суровых гадоў...

Я не раз чуў ад І. Я. Кулачко гэту гісторыю. Чытаў дакументы, пацвярджаючыя ўсё расказанае вышэй. 7 мая 1970 года, у канун 25-годдзя перамогі над фашысцкай Германіяй, Варашылаўградскае абласное радыё перадало мой нарыс «Народны мсціўца» аб партызане Іване Яфімавічу Кулачко. І вось цяпер, слухаючы ўспаміны двух сяброў, якія прыйшлі да мяне ў хату, каб падзяліцца сваёй радасцю сустрэчы праз 30 год, я ўглядаюся ў твары маіх гасцей, і мне здаецца, што ў іх рысах ёсць нешта супольнае, падобнае, аднолькавае. Што?

Іван Кулачко гаворыць па-украінску. Аляксандр Казлоўскі — на мяшанай беларуска-украінска-польскай мове. Я — рускі, але выдатна разумею іх абодвух.

Дык вось што супольнае, падобнае, аднолькавае і ў рысах таварышаў і ў размове гэтых двух людзей розных нацыянальнасцей, стаўшых братамі, якіх спалучыў ваенны лёс. Яны — прадстаўнікі двух брацкіх славянскіх народаў — браты па крыві, браты адзінай сацыялістычнай садружнасці нацый.

*Канстанцін Галіч*

*Літоўская казка*

## Чаму кот мыецца пасля яды

Аднойчы заляцеў верабей на сялянскі панадворак і пачаў дзяўбсці зярняты.

Скача верабей па траве, зярняты за зярнятамі падбірае, а гаспадарскі кот на яго з-пад вугла паглядае. Глядзеў кот, глядзеў ды як скочыць на вераб'я! Схапіў за крыло і гаворыць:

— Нядрэнна я зараз паснедаю!

— Што вы, што вы, пане кот!, — зацвыркаў верабей. — Няўжо вы збіраецеся мяне з'есці?

— А што мне, любавацца табой, ці што? — фыркнуў кот і падрыхтаваўся скруціць вераб'іную галаву.

— Ды пасаромцеся ж, пане кот! — зноў зацвыркаў верабей. — Вы ж забыліся ўмыцца! А ці ж вы не ведаеце, што гаспадар ваш, і гаспадыня, і ўсе людзі на свеце спачатку мыюцца, а потым снедаюць?

— І то праўда! — сказаў кот і падняў лапку, каб добранька пацерці сабе мордачку.

А верабей, нядоўга думаючы, скок у бок! Махнуў крыламі і паляцеў.

Вельмі разгневаўся кот.

— Ну, не, цяпер ужо мяне не ашукаеш! — сказаў ён. — Хай людзі робяць як ведаюць, а я спачатку буду снедаць, потым умывацца.

З тых пор усе каты на свеце мыюцца пасля яды.

*Зімовы дэсант.*

### СПОСАБ

— Доктар, калі позна ўначы я пішу вершы, то да раніцы ўжо не магу заснуць.

— А вы паспрабуйце прачытаць тое, што напісалі.

### ДАБРАНЬКІ

Адна дама скардзіцца другой:

— Разумееце, мая мілачка, гэтыя нягоднікі далі майму сыну два гады!

— А ён што, невінаваты?

— Ён самы добры і паслухмяны сын. Усё што краў, прыносіў дамоў.





# НІЎКА

*Народны жарт*

### КУМ ДА КУМА ЗАВІТАЎ

Адарваўшыся ад спраў,
Кум да кума завітаў.
І пра тое і пра гэта
Гаварылі дружбакі.
Закурылі цыгарэты —
Дыму коцяцца клубкі.

Зноў яны пагаварылі,
Зноў сумесна закурылі.
Гаспадар удзячны дужа,
Сыпле макам залатым:
— Дзякуй, куме, дзякуй,
дружа,
Што мяне наведаў ты.
Закуры яшчэ, браток,
Даражэнькі мой кумок.
Ты ж прыехаў бы з кумой.

Госць на гэта бровы
хмурыць:
— А навошта ехаць ёй
Да цябе. Кума ж не курыць.

*С. Пацёмкін*

### ДОКАЗ

— Кажуць, што наступная вайна будзе весціся па радыё.

— Магчыма, я ўжо чуў некалькі жудасных перадач.



*— Ведаеш, даражэнькая, хацела купіць пральную машыну, але маці прыехала.*

## ГУМАР З

Аднойчы мачаха паехала ў горад на кірмаш. Накупіла ўсякай ўсячыны. А потым вырашыла купіць падчарыцы коржыкаў.

Калі прыехала дамоў, шкада ёй стала тыя коржыкі падчарыцы аддаваць. Вырашыла з'есці іх сама. Узяла непрыкметна коржыкі ў руку, усунула галаву ў печ і есць.

Дзяўчынка падбегла да маці і пытае:

— А што гэта вы, мама, робіце?

— Ды печ латаю, — адказала маці.

— А чаго ж у вас, мама, вушы варушацца?

● Ён умеў рабіць дзве справы адначасова: думаць адно, а гаварыць другое.

● Яму гаварылі: «Ты яшчэ малады, гарачы. Але, верым, выправішся». І мелі рацыю: з часам ён стаў старым і халодным.

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Антаніны Нічыпарук, Веры і Аліны Іванюк з вёскі Малінніkі змяшчаем польскую песню

## BĘDZIESZ TY

Nie nazwana, ale bliska
w moich słowach, w moich myślach
będziesz ty.
W przemijaniu dni i godzin,
w wierszu, który za mną chodzi,
będziesz ty.
W listach, które czasem piszę
i w milczeniu, które słyszę,
będziesz ty.
W każdej stronie mego świata
i w najwyższej trawie lata,
będziesz ty.
W mej podróży przez codzienność
zawsze przy mnie, zawsze ze mną
będziesz ty.
W zamyśleniu i w rozmowie,
w róży, która parzy dłonie,
będziesz ty.
W echu, które wraca znikąd,
w ciszy, która jest muzyką,
będziesz ty.
W bezsenności mej i we śnie,
nie nazwana dzisiaj jeszcze,
będziesz ty.
Podzielimy między siebie
całe niebo, całą ziemię,
każdą radość niecierpliwą,
to co będzie, to co było,
wszystkie nasze dzienne sprawy,
wszystkie nasze zapomnienia,
bo prócz siebie nic nie mamy,
nic nie mamy do stracenia.

## З літоўскага гумару

Суседка дзеліцца навінкамі:

— Учора мой сын зваліўся з чацвертага паверха, але нічагусенькі яму не сталася.

— Няўжо?

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— Вы жывеце ў новым доме, а будаўнікі пакінулі кучу смецця вышынёй да чацвертага паверха.

* * *

Кіндзюліс падарожнічае па Чэхаславакіі з турысцкай групай.

— Мы праходзім міма старэйшай півной Прагі, — паказвае гід на старадаўні будынак.

Тут да яго падбег Кіндзюліс і спытаў:

— А чаму міма?

### У ШКОЛЕ

Першакласнік Юра вярнуўся са школы і заявіў:

— У школу больш не пайду.

— Чаму? — спытала бабуля.

— Бо там прымушаюць чытаць і пісаць, а я не ўмею, а размаўляць умею, дык на ўроках не даваляюць.

### ЧАМУ

Чаму ты такі збянтэжаны, Фрэд? Што-небудзь здарылася?

— Я думаю пра сваю будучыню.

— І што ж цябе так бянтэжыць?

— Усё: і мінулае, і будучае.



*«Дзейнічаючы» вулкан.*

## Галаваломка



Нарысуйце фігуру адной непарыўнай ліняй, не адрываючы алоўка ад паперы.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 7 | 2 | 8 |
| 4 | 6 | 3 | 5 |
| 7 | 1 | 8 | 2 |
| 6 | 4 | 5 | 3 |

### ПАРАДА

— Алё! Алё! Гэта дамакіраўніцтва? Паслухайце, я сяджу ў ванне, намыліўся, а вады не стала. Скажыце, што мне рабіць?

— Вазьміце брытву і пагаліцеся.

### ПАСПРАБУЙ

— Сын мой, не існуе такіх цяжкасцей, якія б нельга было пераадолець настойлівасцю і ўпартасцю.

— Ты так думаеш, тата? Тады паспрабуй выціснуць зубную пасту з цюбіка, а потым уціснуць яе зноў у цюбік.

### ВЫНІК

— Гэта траўма — вынік аўтамабільнай катастрофы?

— Так, доктар.

— Відаць, вельмі хутка ездзіце?

— Не, вельмі паволі хаджу.



*— Хачу ўвайсці ў спартыўную форму!*

# Курёзы

### СУТЫЧКА З ПІРАТАМІ

І сёння яшчэ ў адкрытым моры на поўдні Філіпін здараюцца сутычкі з піратамі. У мінулым годзе ў раёне архіпелага Сулу група ўзброеных піратаў напала на філіпінскае судна. У жорсткай сутычцы з марскімі бандытамі 5 чалавек экіпажа былі забіты, двое паранены.



### КОТ СУПРАЦЬ ЛАЙНЕРА

Існуюць забабоны: «Перабяжыць дарогу чорная кошка — не быць дабру. Дагэтуль, аднак, сустрэча з чорнай кошкай у паветры не пагражала нават найбольш забабоннаму чалавеку...

...У аэрапорце Антарыо самалёт ужо ўзнімаўся ў паветра, калі з клеткі, што была ў багажы, выскачыў чорны кот. У пошуках выхаду ён дастаўся ў кабіну пілотаў і пачаў буяніць, кідаючыся на членаў экіпажа. Узлёт быў спынены, пасажыры пераведзены на другі самалёт, а спецыяльна выкліканай паліцэйскай камандзе было даручана злавіць і ўціхамірыць буяна.

### ПЛАКАТ

У парку ля малітоўні баптысцкай абшчыны ў горадзе Александрыі (штат Вірджынія, ЗША) вісіць плакат: «Уваход толькі для веруючых. Парушальнікі будуць ахрышчаны!»




*Праз замочную дзірку бачаць заўсёды больш, чым праз адчыненыя дзверы.*